РЭНІМОВА
СУПОЛКІ ІМЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА №4(10)
ГАРОДНЯ • 1990

# АДРАДЖЭНЬНЕ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

Калі пачынаўся Беларускі Народны Фронт,у яго прыхільнікаў і яго ворагаў існавалі пэўныя ілюзіі.

Прыхільнікі разьлічвалі на супрацоўніцтва "зь лепшымі сіламі КПСС" і выбух нацыянальнай сьвядомасьці,а сярод ворагаў была моцная ўпэўненасьць,што працоўныя пад кіраўніцтвам партыі вымятуць "паліцаяў і нацыяналістаў" з гераічнае беларускае зямлі.

За разьлікамі і перакананьнямі абодва бакі забылі,пра што яны спрачаюцца.На Беларусі быццам спыніўся час.БНФ дасягнуў таго,што цяпер у яго членаў перш за ўсё пытаюцца:"Ну як,не зарэестравалі?!Во гады!" - і спачувальна разьвітваюцца.Той рэестрацыі зараз будзе год,яе чакаюць як другога прышэсьця.

А вельмі цікава было б паглядзець на "грамадска-палітычны рух",калі б заўтра ён прыйшоў бы да ўлады.Што атрымалі б людзі пасьля прыняцьця новага герба і сьцяга?Ці трымаліся б разам дэпутаты і міністры ад БНФ вакол адной,г а л о ў н а й ідэі?Ці разыйшліся б адразу,бо гэта ж не партыя,гэта ж рух, у якім к о ж н а м у с в а ё,а вольнаму воля...

Калі ў народа нізкая нацыянальная сьвядомасьць,ці не лагічна ставіць перад ім ясную і акрэсьленую задачу - праз незалежную рэспубліку да сваёй гаспадаркі,сваёй зямлі і маёмасьці,да жыцьця,л е п ш а г а,чым с я г о н ь н я ў СССР.

Нічога не адрадзіць,не вярнуць і нават ня ўзяць у арэнду, калі ты ніхто,калі ты парабак на сваёй зямлі.Не бывае адраджэньня "пасьля рэестрацыі" - бывае пасьля незалежнасьці.

Наіўна разьлічваць,што апаратчыкі КПБ і генералы КДБ дадуць пацыху аднаўляць разбуранае,абуджаць сьвядомасьць,навучаць гісторыі і ўсё такое - яны ж бачаць,чым для іх саміх аднойчы сканчаецца чыё-небудзь "адраджэньне"!

Чыстай гісторыі не існуе.Хто хоча адраджаць сваю нацыю, абавязаны займацца палітыкай і "пхнуцца да ўлады".Нацыя не зьнікае сама сабою за трыццаць гадоў!Хтосьці зацікаўлены ў тым,каб яе не было.Хтосьці напісаў у Камуністычным Маніфэсце, што пралетары не маюць Айчыны...А БНФ пра адраджэньне ды зь лепшымі сіламі КПСС!І каго людзям слухаць,калі і так,і гэтак?

Т а к справы не робяцца.Вольнасьць у пана не просяць.

Далоў камуністычную дыктатуру!За незалежную Рэспубліку! За годнае чалавека жыцьцё!Т а м пачатак адраджэньня...

# Паэт і палітык



25 Сакавіка у Менску спачатку каля помніка Янку Купале, пасьля каля Максіма Багдановіча беларускі бард Сяржук Сокалаў-Воюш вёў імправізаваны канцэрт да 72 гадавіны Незалежнасьці Беларусі. Усе чакалі ў гэты дзень несанкцыянаванага палітычнага мітынгу; выступленьне заместа яго лідэраў НФ на тэлебачаньні напярэдадзень сьвята шмат хто палічыў як паражэньне Народнага Фронту, не як часовае адступленьне...

Многія пачалі думаць і размаўляць пра ўтварэньне больш структурнае арганізацыі, пра партыю.

Інтэрв"ю пра Полацкі Аргкамітэт Партыі Незалежнае Беларусі наш карэспандэнт узяў у С.Сокалава пасьля сьвята 25 Сакавіка каля помніка М.Багдановічу у Менску.

- Як вы дадумаліся да партыі?
- Сабраліся разам і напісалі калектыўна Статут і Праграму дзеяньня. У канцы месяца прыедзем у Менск як гатовая ўжо арганізацыя і калі сыдземся з менчукамі ў поглядах, можам аб"яднацца.
- Чым адрозьніваецца ваша партыя ад Беларускага Дэмакратычнага Аб"яднаньня ў Беластоку?
- Строгай дысцыплінай. Прыём толькі пасьля персанальнае праверкі кожнага, пакуль што ніхто не прайшоў гэтае праверкі, усіх нас 20 чалавек.
- Па якому ўзору ствараецца ваша партыя?
- Крайне левая...
-Дысцыпліна як у КПСС?
-Мы карысталіся ўласным розумам. Дысцыпліна ў справе змаганьня за незалежную Беларусь павінна быць жорсткай.
- Кантынгент?
-З заводаў.
-Адносіны да беларускае мовы?
-Абавязкова - мова. Чалавек, які ня ведае мовы,на працягу паўгода павінен вывучыць, за год перайсьці на паўсюднае ўжываньне.
- Нізавыя арганізацыі: як яны сабе ўяўляюцца - самастойныя, цалкам падпарадкаваныя?
-Не цалкам. Фінансава - адна трэцяя частка у цэнтр,а дзьве трэція складак пакідаем сабе. Складкі такія — хто працуе - ня менш 3-х рублёў, хто не працуе - рубель. Беларусь дзелім на пяць рэгіёнаў - поўдзень, поўнач, захад, усход і цэнтр. Куды каму бліжэй.
-Дык па заводах раскідваецца ці па рэгіёнах?
-Каму як зручней.
-Публіка засвоіла тэрмін БНФ, але не задаволена Статутам БНФ. Рабочыя так і кажуць: у вас у Фронце бардак, а не парадак. У сувязі з тым думаем пра двайную назву БНФ-Дэмакратычная Партыя...
-У Полацку ёсьць дзьве рэальныя сілы, мы кансалідуемся з Фронтам, падтрымліваем ягоную праграму, але мы не выключаем нелегальную дзейнасьць. НФ выключае.

- Паехалі з Гародні і ня ведаем, што там адбываецца сёньня, магчыма, скандал. Пазьняк абвясьціў у "ЛіМе" дэмакратычны шлях, а сягоньня не выйшаў да мікрафона. Ваша думка.

- Сягоньня Пазьняк паводзіў сябе як не лідэр, а як звычайны чалавек, які сьвяткуе незалежнасьць, і таму ня выйшаў. Я лічу гэта нармальным.

- Учарашняе выступленьне па тэлебачаньні ці магутны мітынг. Што важней?

- Відаць, сітуацыя склалася так, што горад быў не гатовы да мітынгу. Ненавіта ў Дзень Незалежнасьці. Усе сілы былі кінуты на перадвыбарчую кампанію. Калі б гэта ў Наваполацку, мы стаялі б за мітынг.

- А чаму не арганізавалі мітынг у Наваполацку?

- Нас папярэдзілі, што ў Менску будуць разганяць дубінкамі мітынг, нас прыехала II чалавек сюды, дзе найбольш небясьпечна.

- Практыка паказвае, што БНФ набярэ не больш 20 працэнтаў у Вярхоўным Савеце і ня больш 30 у мясцовых. На пяць гадоў. Якая перспектыўная тактыка НФ?

-Тэрміновае стварэньне законаў адкліканьня дэпутатаў.

-Не дадуць стварыць. Што далей?

-Як мага цішэй зьнізу ня будзе.

-Як ты бачыш далейшы наш рух?

...Тут улазіць слухач збоку, які ўсё ведае, напэўна, гэта з тых, што інфармуюць КДБ, доўга блытана перашкаджае гутарыць...

Новае пытаньне:

-Працэнт тых, хто ўдзельнічае ў дэманстрацыях і мітынгах, у Наваполацку і Гародні большы, чым у сталіцы. Баставаць рабочы клас у Беларусі ня зьбіраецца і правільна робіць. Усе прапановы зьвядуцца да таго, што мы зьнізу патрабуем нешта ад адміністрацыі. Што рабіць, калі адміністрацыя скажа "Ну вас да чорта! Нічога вам не дамо..."

-Выбары ў Вярхоўны Савет паказалі, што мы нічога ня можам выбраць зьнізу. Я за мірны шлях. Але калі яны выцягнуць дубінкі, то ці варта не супраціўляцца злу?

- Для даведак: "Салідарнасьць" 10 гадоў знаходзілася ў падпольлі. Забітых 1 700, інтэрнаваных 78 тысячаў...

-Падпольле - гэта таксама адзін са шляхоў барацьбы. Як паказвае статыстыка, у любой рэвалюцыі ўдзельнічае ня больш 20 працэнтаў насельніцтва, астатнім усё бяз розьніцы. Выбары паказалі, што ў нас сытуацыя такая ж. Прыкладна па 10 працэнтаў з аднога і другога боку ваявалі паміж сабою. Я думаю, што хто каго, груба кажучы, перастраляе, той і выйграў. А наконт падпольля, то калі б "Салідарнасьць" пайшла ў падпольле, яна зьберагла б болей людзей, чым так, як дзейнічала ў той абстаноўцы адкрыта. Падпольны шлях трэба выкарыстоўваць, калі ёсьць у гэтым патрэба. Вось і ўсё.

-Калі НФ замест свайго размытага статута напіша больш стройны, гэта будзе "новая КПСС"?

- Гэта будзе новая партыя. Не дзьве партыі, а некалькі павінна дзейнічаць на Беларусі. Ёсьць сацыяльная база для дзьвюх - трох новых дэмакратычных партый...

# СЯРЖУК СОКАЛАЎ-ВОЮШ

## Я ВАС ПРАПУСКАЮ БЕЗ ЧАРГІ

Я вас прапускаю без чаргі -
станьце ля мяне у нетрах крамы,
першы сакратар альбо другі
ці галоўны самы з выканкама.

Станьце ля мяне, я вам куплю.
Калі не - свайго аддам палову:
каўбаса нагадвае пятлю,
што чакае нашыя галовы.

А на вуліцы транспарт на дыбы!
Ну ж, за мной, уласны мой гаротнік -
першы сакратар альбо любы
мужны выканкамаўскі работнік!

Іскры з воч - вось гэта, брат, салют!
Цісмуць, як цыклоп у пальцах гніду,
але вам саступіць добры люд
месца для дзяцей і інвалідаў.

Як сьпяваць і далей без пары,
можна трапіць запраста у яму -
слухайце ж мяне, сакратары,
слухайце, галовы з выканкаму.

Я аднойчы чуў пры каралях:
шлях у камунізм прыдумаў хтосьці.
Хочаце пабачыць гэты шлях?-
я пакажу!-
што ж вы паўцякалі, ягамосьці?!

## ЧОРНАЯ НОЧКА

Як зьявіўся я на сьвет,
бачылі нямногія.
Зачынілі кабінет
акушэркі строгія.
Лекар не адчуў граха -
вось дык этыка!
Нават падвяла к р а х а
наша энергетыка.

Чорная ночка навокал была!
Парадзіхі енчалі і падалі на дол.
Ім бы супакоіцца - бо няма сьвятла,
пагарэлі коркі і выйшаў валідол.

Вось тады - на чорным дне
ночкай зорнаю
праясьнілася ў мяне:
буду жыць па-чорнаму.
А нідзе хаця б крыху
сьветлай плямачкі -
ды на ўсім маім шляху
толькі ямы-ямачкі.

З чорнага ходу панёс мяне лёс -
божа, чаго з таго ходу няма ж!
Чорнага мора лагода і плёс.
Чорныя стаўкі на чорны кірмаш.

Я жыву, нібыта ў сьне -
я не хапаю.
Не чапайце вы мяне
вашай бруднай лапаю!
Багацею з году ў год -
сьвет так створаны.
Прабягае чорны кот
перад "чорным воранам".

Чорная "Волга". Чорная ікра.
Футра з чарнабуркі і сам як Чарнабур -
але ўсё жыцьцё мае чорная нара
з чорнымі хадамі "няпройдзяных дарох".

Толькі часам пакрысе
я трывожуся,
а раптам стану, як і ўсе,
ці,-крый бог!-здарожуся?!
Час спыняе ціхі сум,
"бабкі" смыкаю -
і ад чорных гэтых дум
каньякі я лыкаю.

Чорнаю ночкай сьніцца "опер" мне.
Чорныя сьпіскі. Падзеяў вінегрэт.
І, як чорны гумар, проста на сьцяне
у грубай чорнай рамцы мой партрэт.

Расчытана з дыктафона. Запіс зроблены 25 сакавіка ў парку Я. Купалы ў Менску.

# Лісты Натальлі Арсеньневай

Калі нас, гарадзенскіх літаратарау, упершыню пусьцілі зь мяшка ў Беласток на сьвяткаваньне 30-годзьдзя "Белавежы", я атрымала адрэсы некаторых беларусаў з-за плоту, у тым ліку паэткі Натальлі Арсеньневай, паэткі, якой зусім ня ведае беларускі чытач, і толькі ў "Политическом собеседнике" №12 за мінулы год апублікавалі яе фота з адпаведным каментарам партыйнае ідэалёгіні Т.Бумажковай. Напісала я спадарыні Натальлі кароткі ліст і атрымала ад яе адказ. Друкую яе лісты з нашае перапіскі.

Д. Бічэль-Загнетава

88г. Рачэстар, 8.7.

Д а р а ж э н ь к а я !

Вярнуўшыся ад знаёмых з Канады ў мінулым тыдні, засьпела ваш ліст, ён чакаў тут на мяне амаль тры тыдні, дык сьпяшаюся на яго адказаць. Перадусім, вельмі цешуся, што пакрысе знаёмімся, пачынаем перапісвацца, чуцца адной роднай сямейкай. Я тут у Рачэстары чуюся часта вельмі самотнай. Беларусоў тут амаль няма. Але трымаю ўсе гэтыя гады (ужо 20!) шчыльную сувязь зь Нью-Ёркам і больш-менш у курсе ўсіх нашых справаў. Жывём мы таксама вельмі сьціпла й супакойна, выгадавала сыну парачку – ўнука і ўнучку. Але яны яшчэ ня жэняцца, хоць унук ужо жыве асобна. Унучка скончыла каледж і ўжо другі год працуе. У нашым Рачэстары жыцьцё плыве вельмі супакойна. Гэта досьць вялікае места каля 300 000 жыхароў. Ёсьць вялікі унівэрсытэт, палітэхніка й кансэрваторыя, але мы амаль ніякага ўдзелу ў жыцьці гораду не бяром. У нас тут лепшыя як для мяне разрыўкі – возера Антэрыё, колькі паркаў, якія больш падобныя да лесу, адным словам, прыгожая, жывая прырода. Ці паверыце, у парку, што да нас блізка, шмат грыбоў, сапраўдных, "нашых" баравічкоў. І нагул вакол вельмі прыгожа, ня верыцца, што жывем у такім вялікім месьце. Больш, пакуль што, нічога ня пішу. Калі гэты ліст атрымаеце, напішу больш.

Н.А.

Рачэстар 22.10.89г.

Д а р а ж э н ь к а я !

Ня крыўдуйце на мяне, што гэтак доўга не адпісвала на Ваш ліст, але мае хатнія абставіны гэтак склаліся, што ўсё давялося адкласьці на бок. Справа ў тым, што жыву я з сынам, 20 год таму давялося мне кінуць усё наладжанае жыцьцё ў Нью-Ёрку, кватэру, працу, сяброў і ехаць да сына ў Рачэстар – ён застаўся з 2 нялетнімі дзецьмі на руках пасьля сьмерці жонкі й прасіў мяне дапамагчы яму зь імі. Ён у мяне застаўся адзін старэйшы загінуў у часе вайны ў 1943 годзе й я не магла

яму адмовіць, кінула ўсё і прыехала да сына, выгадвала дзяцей (хлапцу было тады 8, а дзяўчыне 4 з паловай гады), і вось ужо й сын праз колькі месяцаў выходзіць на пэнсію, (яму якраз споўнілася 65 год), і дзеці вырасьлі, але й мне ж ужо мінула 20 верасьня 86 год! Так што, здавалася б, цяпер я магла б ужо уздыхнуць свабодна, але насунулася іншая бяда: бацькі мае нябожчыцы нявесткі, якія жылі дагэтуль у добрым здароўі ў Флярыдзе і якіх мы наведвалі штогод у іхнай блізу курортнай там мясцовасьці (ім аднаму 86, а другой 82 гады), раптам пачалі хварэць і давялося мне туды ехаць іх дагледзець, бо сын мой ня мог кінуць працы, а ўнучка таксама працуе, ды й што яна там магла б дапамагчы! Вось я й была там усё лета. Справы ў іх зусім дрэнныя, чым гэта ўсё скончыцца, ня ведаем, а тут - захварэла і ўнучка - на ейную машыну, калі яна ехала з працы, наехаў нейкі п"яніца і ў выніку ў яе ў сьпіне былі пашкоджаныя 4 пазванкі, боль быў страшэнны, не магла ні ляжаць, ні сядзець, цэлы месяц не працавала. Цяпер лепш, ужо працуе, пакуль што поў-дня, але я йзноў занятая хатняй працай і ўсімі хатнімі спра вамі, не гаворачы ўжо аб маральных перажываньнях. Я, ведама, ня скарджуся, у жыцьці-ж усяляк бывае, але ўсё-ж лепш, каб усіх гэтых клопатаў ня было.

Але цяпер, даражэнькая, ужо купіла вялікі канвэрт і бяруся высылаць Вам маю кніжку, тым больш, што ў міжчасе выйшаў дазвол на перасылку ў СССР літаратуры кніг, часопісаў і г.д. . На мінулым тыдні атрымала ліст з БССР ад В.Аксак, між іншага яна піша, што бачыла й чытала ўжо маю кніжку "Між берагамі", "добрыя людзі далі пачытаць", яна піша. "Між берагамі" выйшлі ў сьвет ужо год 10 таму, невялікім, параўнальна, тыражом, і засталося іх ужо вельмі мала, у мяне асабіста ўсяго 3 экзэмпляры, адзін пасылаю Вам. Рэшта, колькі іх там яшчэ ёсьць, собскасьць Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку Старшыня Вітаўт Кіпель . Ведаю, што ён высылаў некаму ў Менску пару раз па 5 кніжак і яны там ходзяць па руках, "добрыя людцы даюць пачытаць," як піша Валя Аксак. Вось, здаецца, пакуль што і ўсё.

У нас сёлета было вельмі гарачае й засушлівае лета, дык грыбоў, на жаль, зусім ня было. А цяпер ужо запраўдная восень! Дрэвы стаяць усе ў золаце й гэтак прыгожа, што аж сэрца сьціскаецца!

Вашая Н. Арсеньнева

На кніжцы "Між берагамі" аўтарка напісала наступнае:

"Дарагая Данута! Дзеляць нас з Вамі адлегласьці ў тысячы міляў, але чуемся мы быццам лучыць і нас і нашу творчасьць нешта непадзельнае і чарадзейнае, а гэта слова - Беларусь"

Кастрычнік 89, Натальля Арсеньнева

# Сем кватэраў да культуры

Пастаноў высокіх жыку
ён даўно ужо каўтаў
і таму ніякіх кніжак
год пятнаццаць не чытаў...

Так пісаў Вядзьмак Лысагорскі Менскі пра сакратара ЦК КПБ па ідыялёгіі В.Пячэньнікава.

Але пад Валерай працуе таксама шмат людзей -- асабліва ў "старым"Гарадзенскім гарвыканкаме і розных адзьдзелах культуры памянутага слаўнага месца.

Месца ж тое слаўнае,між іншым, тым,што тут захаваўся дом,у якім жыла сям я Багдановічаў.Тут узыйшла зорка Максіма - аўтара "Пагоні",мноства санетаў і цудоўных перакладаў,найяскравага паэта сучаснай беларускай літаратуры.

Пасьля доўгіх намаганьняў АДНА ВОСЬМАЯ частка дома былаператвораная ў літаратурны музей Тры маленькія пакойчыкі прынялі ад пачатку года столькі наведвальнікаў з Беларусі і іншых краінаў,што так званы гадавы план быў выкананы...за месяц!

У суседніх сямі кватэрах першапачаткова жылі,як мае быць, сем сем'яў.Але хутка сталася так,што ў кожнай кватэры было па дзьве,а дзе і па тры сям'і.

Замучаныя жыльлёвым крызісам людзі па наіўнасьці разьлічвалі атрымаць кватэры:як жа,зорка жыла!аздобнае месца гораду,"цэнтр" культуры ці не эўрапейскага ўзроўню - пачнуць пашыраць музей і адсяляць нас...

Відаць,шаноўныя суседзі,цалкам маючы рацыю,перацанілі,аднак,адукаванасьць і культурны ўзровень гарадскога начальства,якое пагалоўна "членіць" у КПСС.

Закавыка не ў дзесятку кватэраў - для дырэктараў ды "апаратчыкаў" КПБ гэтае дабро звўсёды ёсьць.Але,але,але...

Па-першае,таго Багдановіча чорт падштурхнуў напісаць тую самую "фашистскую" "Пагоню", як сьцьвярджае "Политический собеседник".

Па-другое,там працуе "экстрэмістка" Д.Бічэль-Загнетава;яна член Сойму БНФ і паводле таго ж "Политического собеседника"...служыла ў паліцыі,маючы год нараджэньня 1939-ты.

Па-трэцяе,там сядзяць і не зьбіраюцца выходзіць Рада БНФ "Адраджэньне",выдавецкая суполка імя М.Багдановіча,вершгурт "Дыяген",дзіцячы гурток "Вянок" і проста заходзяць розныя людзі.

Так што,дарагія суседзі, пашыраць т а к і музей ніхто не зьбіраецца...

Праўда,тут падыйшоў юбілей таго самага М.Багдановіча - то вырашылі:няхай ужо,бог зь імі,давай п а п а л а м.

Яшчэ тры клеткі аддаем,- быццам бы!-на музей,а ў астатніх жывіце людзі,радуйце тав. Кудраўца,тав.Брыкача і іншых "таварышоў",якія даўно жывуць як за польскім часам!

Што вы лётаеце з сваім Багдановічам?Каб тут Ленін паранaчаваў з кім-небудзь ці проста "останавливался" - была б зусім іншая справа!

Здаецца мне,што калі ў пазасталых кватэрах будзе ўжо па пяць сем'яў,засаромеюць насьмерць і музей,і Д.Бічэль-Загнетаву:"ета сколька вы кварцір хаціця у хорада паатбірацъ?"...

Чыстыя "экстрэмісты"!

А.ЧОБАТ

**ВЫДАЕ ДАНУТА З ГАРОДНІ КАЛІНОЎСКАГА 7 кв 4**

**ТЭЛЕФОНЫ 44·01·27 , 45·22·54**



Наклад 1000 экз. Цана 25 кап.